


# Рэгіянальная газета. Rh.by

элетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя

13 студзеня 2017 года №2 (1133)





## Пасяўны каляндар садавода і агародніка

старонка 20-21

**Данік Савеня: мару стаць знакамітым і каб Каця на мяне паглядзела**
старонка 17

**Вілейка: хто павінны класці асфальт у двары шматкватэрнага дома**
старонка 2

**Акцёр Барыс Донін: больш за ўсё баюся стаць жывым экспанатам**
старонка 6

# Як трацяць грошы супрацоўнікі банкаў?

Фота qulady.ru.

Колькі зарабляе касір банка і як размяркоўвае свае даходы, чытайце на
старонцы 3

# Адам Мальдзіс: астравецкія дубы ўзялі пад навуковы кантроль

АСТРАВЕЦ

**Восенню мінулага года пісьменнік і навуковец, ураджэнец Астраўца Адам Мальдзіс публічна заступіўся за старыя дубы, якія пачалі высякаць у горадзе з-за новабудоўлі.**

У нядаўняй размове з карэспандэнтамі "Рэгіянальнай газеты" пісьменнік расказаў, што на сённяшні дзень сітуацыю з дубамі ў Астраўцы ўзялі пад навуковы кантроль.

– Я патэлефанаваў у інстытут батанікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, – распавёў Адам Іосіфавіч. – Там ёсць супрацоўнікі, якія адказваюць за старыя насаджэнні дрэў у Беларусі. У інстытуце сказалі, што маё ўмяшанне было правільным, паабяцалі разабрацца і навесці парадак.

У інстытуце батанікі сітуацыю ў Астраўцы абмеркавалі на навуковым узроўні.

Тое, што дубы пакінуць, ніяк не супярэчыць увасабленню праекта, а нават дапаўняе яго, лічыць Адам Іосіфавіч. Проста трэба ўдала спалучыць адно з другім. І вырашэнне ёсць.

Я хачу давесці мясцовым уладам у Астраўцы, што ніякага канфлікту ў сітуацыі з дубамі няма, кажа Адам Мальдзіс.

Невялікае змяненне будаўнічага праекта толькі становіча паўплывае на развіццё раённага цэнтра. Яно ніяк не супярэчыць з'яўленню новага жылога мікраёна ў Астраўцы.

Навуковец упэўнены, што ніхто не будзе супраць жыць у новым доме, пад вокнамі якога расце дуб 200-гадовай даўніны.

Аксана ЯРАШОНАК.

# У ЗША памёр ураджэнец Ашмяншчыны, адзін з найстарэйшых дзеячаў беларускай эміграцыі

АШМЯНЫ

**У ноч на 8 студзеня на 102 годзе жыцця памёр Антон Шукелойць – адзін з найстарэйшых грамадскіх і культурных дзеячаў беларускай эміграцыі. Пра яго смерць у Facebook паведаміла гісторык Наталля Гардзіенка.**



Антон Шукелойць нарадзіўся ў 1915 годзе ў Пецюкевічах, на тэрыторыі цяперашняга Ашмянскага раёна. Скончыў пачатковую школу ў Жупранах, польскую гімназію ў Ашмянах, Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя па спецыяльнасці "этнаграфія і філалогія". Спяваў у беларускім народным хоры пад кіраўніцтвам **Рыгора Шырмы**. Уваходзіў у польскую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Ад 1939 года, калі тэрыторыя Заходняй Беларусі стала савецкай, настаўнічаў на Ашмяншчыне, працаваў інспектарам-метадыстам Ашмянскага раёна. Выкладаў беларускую мову ў гімназіі, дзе некалі вучыўся сам.

У чэрвені 1941 года быў арыштаваны НКВД і адпраўлены ў мінскую турму. У выніку налёту нямецкай авіяцыі змог вызваліцца.

У гады акупацыі працаваў у гарадской адміністрацыі Мінска, кіраваў Мінскім гістарычным музеем.

У 1944 годзе эміграваў у Германію. Спачатку працаваў у фермера, пасля вайны вывучаў археалогію ў нямецкіх універсітэтах.

У 1952 годзе паехаў у ЗША і пасяліўся ў Нью-Ёрку. Працаваў таваразнаўцам пры Інстытуце тэхналогіі моды, у краме адзення.

Быў актывістам Беларуска-амерыканскага аб'яднання, членам БНР. У канцы 1960-х – пачатку 1970-х гадоў кіраваў беларускай школай у Нью-Ёрку. Доўгі час быў членам рэдкалегіі газеты "Беларус".

100-гадовы юбілей Антона Шукелойця ўрачыста адзначалі 19 ліпеня 2015 года беларускай грамадой у Нью-Ёрку.

Аддзел інфармацыі.



Фота Ігара МАРОЗА.

Жыць у двары з высокімі бардзюрамі нікому няручна.

# Хто павінны класці асфальт у двары шматкватэрнага дома ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Двор ля дома №49 па вуліцы Льва Талстога ў Вілейцы амаль нічым не адрозніваецца ад іншых падобных двароў. Такая ж зеляніна, ганкі, сцяжынкі, пляцоўкі.**

А яшчэ бардзюры. Толькі вось асфальту паміж гэтымі бардзюрамі няма ўжо больш за год.

У рэдакцыю звярнуліся чытачы, якія жывуць у доме №49. Побач яшчэ адзін шматкватэрны дом і дзіцячы садок.

Жыхары распавялі, што перад абласнымі Дажынкамі, восенню 2015 года, у двары паклалі бардзюры. Асфальту ж няма да гэтага часу.

### Як жывецца ў двары з бардзюрамі без асфальту

Па словах жыхароў, жыць у такім двары няручна ўсім. Цяжка і матулям з калясkamі, і раварыстам, і сталым людзям. Тым больш, што бардзюры без асфальту вельмі высокія і дастаюць ледзь не да калена даросламу чалавеку.

Чаму да гэтага часу не паклалі асфальт? Хто павінны гэтым займацца? З такімі пытаннямі мы звярнуліся ў арганізацыі горада.

Галоўны архітэктар Вілейскага раёна **Дзмітры Гарланаў** распавёў, што за асфальт у дварах дамоў адказвае ЖКГ. Але толькі ў тым выпадку, калі дамы не кааператыўныя. Бардзюры, па яго словах, сапраўды ў многіх дварах шматкватэрных дамоў клалі перад Дажынкамі.

**Намесніца дырэктара па будаўніцтве Вілейскай ЖКГ Ніна Сялюн адказала, што дом №49 кааператыўны. Таму варыянт дзеянняў адзін: класці асфальт на тэрыторыі пры доме жыхары павінны за свае грошы.**

Па словах Ніны Сялюн, летась пакласці асфальт на вуліцы Савецкай з дапамогай тэхнікі каштавала 15 рублёў за 1 метр квадратны.

У Вілейскім бюро па рэгістрацыі і зямельным кадастры сказалі, што участак зямлі каля дома №49 незарэгістраваны. Таму, перш чым праводзіць на ім нейкія работы, зямлю трэба зарэгістраваць.

Рэгістрацыяй зямельных участкаў займаецца землеўпарадкавальная служба Вілейскага райвыканкама. Тут растлумачылі, што для таго, каб зарэгістраваць зямлю, старшыня кааператыва павінны звярнуцца ў службу, дзе яму ўсё растлумачаць і дадуць напісаць неабходную заяву.

Працэдура платная. Кошт вызначаюць па тарыфах прэйскуранта. Работы па землеўпарадкаванні павінны правесці за 20 дзён з моманту аплаты.

### Раз трэба, значыць, трэба: віляйчанка згодная класці асфальт за свае грошы

**Іна Бауліна** са сваёй сям'ёй жыве ў адным з шматкватэрных дамоў Вілейкі. Па словах жанчыны, асаблівых праблем з асфальтам у двары іх дома пакуль няма. Ёсць невялікія ямы, але яны, па словах Іны, не перашкаджаюць жыхарам. Таму гэта не страшна.

Калі б мяне не задавальняў асфальт, я звярталася б у ЖКГ. А там бы растлумачылі, што рабіць, упэўненая жанчына.

Калі ж па законе рамонт дарогі ва ўласным двары залежыць ад жыхароў, трэба браць ініцыятыву ў свае рукі: збіраць грошы, наладжваць работы па ўкладцы.

Асабіста я, кажа Іна, здала б грошы на асфальт у двары.

**Даведка "РГ".** Прысядзібная тэрыторыя – гэта тэрыторыя, прызначаная для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома або некалькіх жылых дамоў. Калі гавораць пра такую тэрыторыю каля шматкватэрнага дома, як правіла, маюць на ўвазе двор і стаянку.

Аксана ЯРАШОНАК.

ТЭМА НУМАРА




# Як траціць грошы супрацоўніца банка?

МАЛАДЗЕЧНА

**Праца ў банку, незалежна ад пасады, у народзе лічыцца ледзь не самай грашовай. З такім заробкам і сямейны бюджэт спланаваць лёгка, скажуць людзі.**

Ці так гэта, карэспандэнту "РГ" распавяла маладзечанка **Караліна**, спецыяліст па касавай працы.

За працу на касе Караліна атрымлівае на рукі 420 рублёў з вылікам падаткаў. Плюс да гэтага можа дадавацца прэмія каля 30% ад сумы.

– Для Маладзечна гэта вельмі дастойны заробак, – заўважае дзяўчына. – Тым больш, што я цяпер жыву адна. Але калі ў будучыні муж будзе зарабляць столькі ж, то праблем з утрыманнем сям'і і дзяцей не будзе.

Заробак касіра ў банках адзін з самых нізкіх. На вышэйшых пасадах заробкі могуць дасягаць куды большых сум, але да іх супрацоўнікі ідуць гадамі.

### "Хоць і працую ў банку, але свае грошы там не захоўваю"

Першае, што робіць дзяўчына ў дзень заробку, – плаціць за камунальныя паслугі, інтэрнэт і мабільны тэлефон. На гэта ідзе каля 80 рублёў.

Другі па важнасці пункт – адкласці грошы. З кожнага заробку Караліна купляе сто долараў.

– Я ўжо зразумела, колькі грошай мне трэба ў месяц на жыццё, таму вызначыла, што адкладваць буду мінімум па сто долараў, – тлумачыць дзяўчына. – У доларах, бо так зручней, у нас жа ўсё вымяраецца ў іх.

**Ніякіх ашчадных рахункаў супрацоўніца банка не мае. Кажа, што сумы яе зберажэнняў такія малыя, што захоўваць іх пад працэнты не мае сэнсу.**

– Адкладзеныя грошы дзялю на дзве катэгорыі: бягучае і доўгатэрміновае, – працягвае Караліна. – Доўгатэрміновае ўвогуле не чапаю, а бягучыя накапленні трачу на канкрэтныя рэчы: бытавую тэхніку, новую куртку, адпачынак.

Каля 200 рублёў у месяц ідзе на харчаванне:

– Для мяне важна добра харчавацца, а яшчэ мець магчымасць раз на тыдзень выйсці з сябрамі ў кавярню.

Усё, што застаецца, – каля 120 рублёў, – ідзе на дробныя бытавыя расходы: касметыку, бытавую хімію, дробнае адзенне.

### "Не ўсе маладзечанцы ўмеюць распараджацца грашыма"

Караліна лёгка расказвае пра тое, як будуе ўласны бюджэт. Але даваць парады наконт гэтага іншым не бярэцца: ўніверсальнага спосабу для ўсіх не існуе.

– Вядома, прафесія адбіваецца на касірах, – дзеліцца назіраннямі дзяўчына. – Мы пастаянна сочым за курсам, ведаем пра ўсе віды ўкладаў і працэнтаў, таму арыентуемся, куды лепей накіраваць свае грошы.

Караліна працуе на касе больш за тры гады і бачыць, як часта беларусы не ўмеюць распараджацца грашыма.

– Бачу, як чалавек прыходзіць і купляе з заробку даляры на вялікую суму, – распавядае касір. – А праз тыдзень пачынае рэгулярна прыходзіць і па 10-20 даляраў мяняць назад на беларускія, пры гэтым вельмі прайграючы ў курсе. Чаму нельга вызначыць для сябе суму, без якой ты можаш пражыць на рэшту заробку, і памяняць толькі яе? Каб пасля не лётаць па банках і не губляць грошы пры абмене валют.

### "Бывае, што звальняюцца пасля першага дня працы"

Праца ў банку часта лічыцца не толькі прэстыжнай, але і лёгкай.

– Сядзіць дзяўчына ў белай кашулі, усміхаецца, тыкае ў кнопачкі, – адным словам, нічога не робіць, – іранізуе Караліна. – Збоку наша праца падаецца лёгкай. Але ўвесь дзень працуеш ў пыле, у канцы дня бываюць прыступы кашлю.

Са з'яўленнем манет у дзяўчат-касіраў новая праблема: ад пастаяннай "лоўлі" манет у латках касы збіваюцца пальцы і слаяцца пазногці.

Але часам самым складаным у працы становіцца тое, што трэба увесь дзень кантактаваць з людзьмі. Гэта забірае шмат энергіі.

– Усе свае незадаволенасці, – высокія камісіі і працэнты па крэдытах, – людзі накіроўваюць на касіраў, – дзеліцца дзяўчына. – Але ж не мы ўстанаўліваем гэтыя лічбы, а ўвесь негатыў ідзе на нас. А колькі разоў ужо даводзілася чуць, што "я плачу такія высокія працэнты, а ўвесь ваш банк з гэтага жыве!". Але мы мусім заставацца ветлівымі.

Праца з грашыма – вельмі адказная і кожную хвіліну патрабуе канцэнтрацыі. За ўсе разыходжанні сум у дакументах і ў касе касір адказвае асабіста. Калі сумы не сходзяцца, супрацоўніка пазбаўляюць прэміі.

– Калі купюры скленяцца, можаш выдаць кліенту большую суму, – прыводзіць прыклад Караліна. – І калі чалавек не верне грошы, то прэміі пазбавяць касіра.

Не кожны банк патрабуе ад сваіх касіраў вышэйшай адукацыі, але стрэсаўстойлівасці – абавязкова.

– Пасля гэтага артыкула ўсе масава пойдуць у касіры! – усміхаецца Караліна. – Заробак заробкам, але не кожны вытрымае такую працу. Бывалі выпадкі, калі дзяўчаты паўтара месяца праходзілі падрыхтоўчы курс, каб працаваць касірам, але пасля першага працоўнага дня звальняліся самі, – не вытрымлівалі нагрузкі і адказнасці.

Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.01 | 12.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9707 | **1,9697** |
| Еўра | 2,0534 | **2,0803** |
| Злоты, 10 | 4,6600 | **4,7556** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2297 | **3,2756** |
| Грыўня, 100 | 7,2568 | **7,2362** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 4.01 і 11.01** | | |
| Еўра | 2.0300/2.0600 | **2.0600/2.0850** |
| Долар ЗША | 1.9550/1.9750 | **1.9550/1.9750** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.01 | 11.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | Павільёны закрытыя з-за тэмпературнага рэжыму |
| Сасіскі, 1 кг | 7,13 | |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,26 | |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,37 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,50 | **0,49** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,39** |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | **3,39** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,75** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,79 | **2,85** |
| Гранаты, 1 кг | 3,75 | **3,45** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,48** |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | **3,50** |
| Агуркі, 1 кг | 4,45 | **5,90** |
| Перац, 1 кг | 4,49 | **5,69** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,40 | **2,75** |
| Вінаград, 1 кг | 3,75 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **-** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,40** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,99 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,30 | **0,35** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

# З-за сігналізацыі эвакуявалі 60 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Вечарам 9 студзеня выратавальнікі атрымалі паведамленне, што спрацавала сігналізацыя ў інтэрнаце па Вялікім Гасцінцы.**

Калі выратавальнікі прыбылі на месца, то знайшлі задымленне на першым паверсе.

Паводле папярэдняй інфармацыі, праз кароткае замыканне праводкі ў калідоры адбылося задымленне. Спрацавала аўтаматычная пажарная сігналізацыя, якая выходзіць на вахту.

Вахцёр адразу ж уключыла гукавое апавяшчэнне аб неабходнасці эвакуацыі ўсіх жыхароў з пакояў. Адчыніла запасныя выхады на лесвічныя пляцоўках.

Выратавальнікі разам з вахцёрам з першага і другога паверхаў праз запасныя выхады на вуліцу эвакуявалі 60 чалавек.

Лесвічныя пляцоўкі не былі задымленыя. Супрацоўнікі МНС асвятлялі дарогу людзям, якія выходзілі.

Эвакуацыя жыхароў з вышэйшых паверхаў не спатрэбілася. Пасля эвакуяваныя вярнуліся ў сваё жыллё.

**Пацярпелых няма.**

Прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі электрашчыта без наступнага гарэння.

**Паводле МНС.**

## Маладзёна пырнулі ў шыю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося вечарам 8 студзеня. Каля аднаго з пад'ездаў па вуліцы Хмяльніцкага невядомы нанёс вострым прадметам удар 25-гадоваму мужчыну. Яго шпіталізавалі.

Па падазрэнні затрымалі 19-гадовага смаргонца.

Праверку праводзіць Следчы камітэт. Падрабязнасці чытайце праз тыдзень.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзіўны занятак у навагоднюю ноч: невядомыя паламалі агароджу ў Любані

**ВІЛЕЙКА**

**У Любані ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня невядомыя паламалі жалезабетонную агароджу.**

Яна агароджвала тэрыторыю прыватных домаўладанняў і знаходзілася на заўважным месцы ўздоўж аўтадарогі Мінск-Нарач.

Як расказаў "Рэгіянальнай газеце" начальнік вілейскага раённага Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**, невядомыя павалілі і паламалі 23 верхнія секцыі.

Побач пашкодзілі дарожныя знакі.

У Следчым камітэце ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "хуліганства".

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Здарэнне на Мядзельшчыне: забіў аднавяскоўца з паляўнічай стрэльбы

**МЯДЗЕЛ**

**Забойства адбылося 3 студзеня ў вёсцы Нарэйшы.**

49-гадовы гаспадар дома пасля сумеснага распівання спіртных напояў у спрэчцы з паляўнічай стрэльбы ІЖ-17 забіў 46-гадовага аднавяскоўца.

Мужчыну затрымалі. Незарэгістраваную стрэльбу канфіскавалі.

**Паводле сайта МУС.**



Каб схаваць забойства, мужчына паклаў труп у сумку і вывез у лес. Фота zebramo.com

# Рашэнне прыйшло спантанна: муж прызнаўся ў забойстве былой жонкі

**ВІЛЕЙКА**

**Упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці завершанае расследаванне крымінальнай справы па забойстве жанчыны, труп якой знайшлі ў Вілейскім вадасховішчы 30 верасня 2016 года.**

Раскрыць злачынства трохгадовай даўніны і затрымаць асобу, якая яго ўчыніла, удалося праваахоўным органам дзякуючы добра спланаваным следчым дзеянням і аператыўна-вышуковым мерапрыемствам.

Паводле падазрэння ў здзяйсненні забойства жыхаркі Мінска 1974 года нараджэння, якая лічылася без вестак зніклай ад мая 2013-га, быў затрыманы яе былы муж, жыхар Мінска 1971 года нараджэння.

Пры допытах і іншых следчых дзеяннях затрыманы пад цяжарам прад'яўленых яму сабраных следствам доказаў прызнаўся ў здзяйсненні злачынства.

Расследаваннем устаноўлена, што рашэнне мужчыны пра забойства ў яго ўзнікла спантанна. У пачатку мая 2013 года жанчына прыйшла ў арандаваны мужчынам гараж у Мінску. У ходзе сваркі абвінавачаны ўдарыў жанчыну металічным прадметам па галаве, а затым задушыў вяроўкай.

**Каб схаваць злачынства, паклаў цела ў сумку і на аўтамабілі вывез у лес у Чэрвеньскі раён. Праз месяц ён перавёз сумку з трупам на Вілейскае вадасховішча, дзе ўтапіў.**

Праведзеныя экспертызы, у тым ліку судова-псіхіятрычная, даказалі, што падазраваны мог у поўнай меры ўсведамляць значэнне сваіх дзеянняў і кіраваць імі.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваныя следствам па прыкмеце складу злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 139 (забойства) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Паводле Следчага камітэта.**

# У Валожыне невядомы пахадзіў па машыне

**ВАЛОЖЫН**

**У адзін з дзён ад 2 да 5 студзеня невядомая асоба пахадзіла па машыне "Таёта-Карола", якая знаходзілася па вуліцы Партызанскай.**

На даху засталіся ўвагнутасці.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Хуліганства". Максімальнае пакаранне за злачынства – абмежаванне волі тэрмінам да трох гадоў.

Валожынскі РАСК просіць людзей, якія бачылі гэта альбо ведаюць асоб, датычных да яго, паведаміць па тэлефонах: **(801772) 5-66-20, (801772) 5-51-33**.

Пра гэта расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Шульга**.

Нагадаем, што два гады таму ў жніўні падобнае здарэнне было ў Маладзечне. Хуліганы пашкодзілі ў дварах 35 машын. Як высветліла следства, здарэнне ўчынілі два маладзёны, аднаму 19 гадоў, другому – 21. Напярэдадні ў аднаго з хлопцаў быў дзень нараджэння. Адзначалі яго некалькі дзён. Выпіўшы, маладыя людзі захацелі пакуражыць. Больш чым дзве гадзіны яны гулялі па горадзе. Разбівалі шкло і фары ў машынах, скакалі па капотах і дахах. У здзейсненым яны прызналіся.

**Аддзел інфармацыі.**

# Колькі кіламетраў дарог адрамантавалі ў рэгіёне летась

**Пра тое, як розныя ўстановы рэгіёна справіліся з уладкаваннем дарог у 2016 годзе, мы распыталі ДРБУ адпаведных раёнаў.**



Аддзел інфармацыі.

## Віляйчане: “Дзякуючы зімовым прозвішчам менш хварэем”

ВІЛЕЙКА

**Адзначаюць, што людзі, якія нарадзіліся зімой, цвёрдыя, рашучыя, упартыя, няўступчывыя. А што ж з тымі, хто мае зімовае прозвішча?**

Віляйчанка **Алеся Лядак** кажа, што сапраўды яна рэзкі чалавек, усе свае думкі адразу выказвае ў вочы, не пляце інтрыг за спінамі людзей.

– Думаю, гэта нядрэнная рыса характару, – мяркуе жанчына. – Лепш адразу выказаць усё чалавеку, чым нешта казаць за спінай. Зразумела, многім не падабаецца горкая праўда, значна лепш чуць пра сябе салодкую ману. Аднак, што зробіш, некаму ж трэба яе гаварыць. Такая асаблівасць майго характару не залежыць ад прозвішча, бо атрымала яго тады, калі выйшла замуж.

Алеся мяркуе, што зімовае прозвішча нейкім чынам абараняе ад хваробаў. Зрэдку хварэе нават маленькая дачка.

– Нягледзячы на тое, што я нарадзілася ў маі, добра пераношу нават самыя суровыя маразы, – дзеліцца яна. – Калі сябры мерзнуць, я магу апрануць толькі куртку на майку і буду адчуваць сябе выдатна.

Хаця зіма для жанчыны не самая любімая пара года, але чакае яе з нецярпеннем.

– Для нашай сям’і гэта святочны час, калі нават самыя сталыя члены сям’і пачынаюць верыць у цуды. Зіма аб’ядноўвае нас: ездзім пакатацца на каньках у Маладзечна, ёсць снег – коўзаемся на горках, гуляем у снежкі, – расказвае Алеся пра зімовыя захапленні сям’і.

**Прозвішча Лядак утворанае ад слова лёд. Хутчэй за ўсё, яго атрымаў чалавек спакойны, не схільны да выказвання пачуццяў. Але яно магло ўказваць на род дзейнасці продка, яго мог атрымаць чалавек, які гандляваў лёдам, работнік ледасховішча. Паводле іншай версіі, прозвішча Лядак утворанае ад слова “лядашчы”, гэта значыць, кволы, слабы, хілы, худы.**

### Людзям прасцей узгадаць маё прозвішча, чым імя

Віляйчанка **Вольга Халадзіла** таксама адзначае, што ў яе сям’і няма тых, каго ў моцны мароз не адарвеш ад печкі, наадварот, добраму марозіку ў сям’і вельмі рады. Імунітэт таксама моцны, таму вірусныя захворванні зрэдку грукаюцца ў дзверы.

Што датычыцца прозвішча, Вольга не ўдакладняла, што яно значыць. Ведае толькі тое, што на Мядзельшчыне яно распаўсюджанае, а вось у Вілейцы з падобным не сустракала, толькі сваякоў.

**Мы пацікавіліся, што адносна гэтага кажуць слоўнікі: “Верагодна, што Халадзілам называлі дзіця, народжанае ў моцны мароз.**

Яно асацыявалася з моцным здароўем і адпаведным характарам. Падобныя імёны давалі дзецям, каб абараніць ад злых сіл, але спадзяваліся, што дзіця вырасце спагадлівае, чулае. Пазней падобныя імёны перайшлі ў прозвішча”.

– Людзі з рэдкімі імёнамі вельмі хутка запамінаюцца, – дзеліцца віляйчанка. – У адносінах да мяне звычайна ўсё наадварот, спачатку запамінаюць прозвішча, бо яно рэдкае, а ўжо потым прыгадваюць імя.

А вось па характары Вольга зусім не падыходзіць пад апісанне людзей з зімовымі прозвішчамі.

– Я чалавек, які з радасцю знаёміцца з новымі людзьмі, заўсёды гатова прыйсці на дапамогу ў цяжкай сітуацыі, уступчывая, – аналізуе свой характар жанчына.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Барыс Донін: больш за ўсё баюся стаць жывым экспанатам

МАЛАДЗЕЧНА

**Акцёру Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барысу Доніну ў студзені спаўняецца 75 гадоў.**

Паважаны ўзрост, салідны жыццёвы досвед, усё такое.

Але калі мэтр завітаў да нас у рэдакцыю, у яго руках была торба са спартыўнай формай, бо пасля інтэрв'ю Барыс Ільіч накіроўваўся ў трэнажорку.

Легенда маладзечанскага тэатра садзіцца на крэсла і, круцячы ў руках навенькі айфон, пачынае расповед.

## Я ўжо паўстагоддзя як Дзед Мароз

75-гадовы юбілей Барыс Ільіч адзначыць спектаклем "Не такі, як усе", які рыхтаваўся да 70-гадовага юбілею акцёра.

– Шчыра прызнацца, мне ўжо сорамна ў такім узросце іграць палюбоўніка. Але сёлета я ўпершыню ад свайго 50-гадовага юбілею адмовіўся ад новага спектакля. Па самых сціплых падліках, каб паставіць спектакль, трэба каля 10 000 дэнамінаваных рублёў. Непад'ёмныя грошы для тэатра. Цяпер жа ўсё дарага: матэрыялы для дэкарацый дарагія, касцюмы дарагія, рэжысёры дарагія, кампазітары дарагія і толькі акцёры бясплатныя. Таму вырашыў іграць "Не такі, як усе". Хто захоча, прыйдзе, павіншуе.

Сёння Барыс Донін заняты ў сямі спектаклях для дарослых і ў трох для дзяцей.

**У адным са спектакляў "Свята для Санькі" Барыс Ільіч выконвае ролю ваўка.** (На фота)

– Я нават бараду адпусціў дзеля гэтай ролі. Ашалелі ўсе. Асабліва была незадаволеная жонка. Кажа: "Ты і так стары, а тут яшчэ гэта барада", – смяецца акцёр.

Увогуле, трэба адзначыць, што Барыс Донін смяецца часта. Вось і тады, калі расказвае пра тое, як іграў Дзеда Мароза.

– Сёлета я адмовіўся ад ролі Дзеда Мароза. Жарты хіба з 1965 года быць у гэтай ролі. Ведалі б вы, колькі ў мяне Снягурачак было! Я не ўсіх і памятаю.

## Калі быў у ваеннай форме, афіцэры аддавалі чэсць. Гэта было жудасна

– Калі адчую, што ў маіх партнёраў будзе спачуванне ў вачах, калі зразумею, што праз мяне тармозіцца творчы працэс, адразу напішу заяву.

Гэта Барыс Донін пра тое, што 75-гадовы юбілей усе ж час падводзіць пэўныя вынікі.

– Я тут падлічыў, што сыграў 53 ролі. А акцёр залежыць ад узросту. Глядач, які прыходзіць у тэатр, хоча бачыць свайго равесніка, нікому не цікавыя старыя. Я вось гляджу па тэлевізары на таго ж Зельдзіна. 100 гадоў чалавеку было, не жарты, а яго выводзяць на сцэну, быццам экспанат, мучаць. Я ні за што не хацеў бы такога лёсу.

Самыя любімыя ролі ў Барыса Ільіча – гэта ролі ваенных.

– Іграў у "Радавых" у народным тэатры, іграў у спектаклі "Пачатак". Былі ў рэпертуары і генералы, і ветэраны вайны.

– Паехалі мы год таму на Курган Славы на Дзень Перамогі. Я ў форме ветэрана вайны, бо іграў ролю, з палачкай. Дык вось сапраўдныя афіцэры аддавалі мне чэсць. Гэта было жудасна.

Чаму любімыя ролі ваенных? Таму што перад вачыма быў прыклад бацькі, яго сяброў, якія прайшлі вайну.

А акцёрам стаў Барыс Донін у войску.

## Камандзір надзяваў на мяне гаршчок і вучыў дыкцыі

– На адным з мерапрыемстваў захварэў акцёр. А гэта катастрофа, што рабіць, хто будзе іграць. Камандзір ткнуў у мяне пальцам і сказаў: "Вось у гэтага луджаная глотка, хай ён паспрабуе".

Пасля тыдзень Барыс Ільіч вучыўся гаварыць у гаршчок, каб голас гучаў. А пасля арміі вырашыў, што без тэатра жыць не можа, і пайшоў у тэатральны гурток пры Доме афіцэраў.

Але не толькі без тэатра, але і без спорту Барыс Донін жыць не мог.

– Па-першае, я закончыў фізкультурны інстытут у Смаленску, па-другое, уваходзіў у зборную вобласці і рэспублікі, ну, і па-трэцяе, пасля арміі выкладаў вытворчую гімнастыку ў трэсце №14.

Барыс Донін прызнаецца, што і цяпер робіць зарадку штодня. Ходзіць у трэнажорную залу, у басейн.

– Я, бывае, гляджу на сваіх аднагодкаў, ды і на тых, хто маладзей за мяне на гадоў дзесяць: зморшчаныя, рукі трасуцца. Думаю, хіба я такі? А тое, што ўнутраны ўзрост не адпавядае ўзросту ў пашпарце, я маркую па тым, што заглядваюся на жанчын. Такія прыгажуні! Думаю, эх, мне б скінуць гадоў 30.

## На зламаную нагу падчас спектакля паставілі крэсла

Барыс Донін прызнаецца, што з жанчынамі і ў асабістым жыцці, і ў сцэнічнай, яму шчасціла. Партнёркі, прызнаецца, былі раскошныя. І гэта пры тым, што аднойчы падчас спектакля, ледзьве не напалохаў актрысу **Веру Кавалераву** да смерці.

– Іграў я тады ў спектаклі "Восем жанчын" гаспадара, які памірае. Калі Вера Кавалерава павінна была паглядзець на мяне зверху і сказаць пра тое, што мой герой памёр. Дык вось я перад спектаклем вымазаў твар у белы грым. Актрыса глянула і не магла зразумець, што здарылася, сапраўдны нябожчык ляжыць.

Розыгрышы, расказвае Барыс Донін, з'ява ў тэатры звычайная.

– Ігралі ў народным тэатры "Вяселле" Чэхава. Там застолле, усе справы. І вось акцёру, які павінны быў гаварыць першы, я замест вады, плюхнуў у келіх спірту. Паўза стаяла секунд 40…

Аднак быў у біяграфіі акцёра і спектакль, які закончыўся тым, што давялося выклікаць "хуткую".

– Калі я працаваў дырэктарам дзіцячага лагера "Лясны гарадок", нам прывезлі мэблю. Разгружаць не было каму, і мы сталі насіць яе разам з качагарам. І тут я сабе на нагу выпусціў шафу. Не ўтрымаў. Хаджу так некалькі дзён, а нага баліць. Гляну, а яна чорная. Пералом чатырох пальцаў. Тут трэба было спектакль іграць. І падчас спектакля мне на гэту балючую нагу выпадкова паставілі крэсла. Я не памятаю, як дайграў спектакль, але як толькі выйшаў за кулісы, страціў прытомнасць. І на "хуткай" уже адвозілі ў бальніцу.

## Калі ў арміі спыталіся імя маці, я не ведаў, што сказаць

Барыс Донін нарадзіўся ў Расіі, у Саратаўскай вобласці.

– Бяда ў тым, што я не ведаю сваю маці. Яна памерла пры родах. У мяне ад яе застаўся толькі адзін фотаздымак.

Маці Барыса Доніна была актрысай у Вілейскім тэатры. Падчас вайны іх з сям'ёй эвакуявалі ў Саратаўскую вобласць, і толькі ў 1945 годзе бацька Барыса Доніна забраў сына ў Маладзечна, дзе застаўся жыць пасля вайны.

– Я калі ішоў у армію, у мяне спыталіся імя маці, а я не ведаў. Бацька ажаніўся ў 1948 годзе і пра сваю маму я з ім ніколі не гаварыў.

Барыс Донін, як кажа сам, пайшоў па слядах бацькі. Таксама, як і ён, быў жанаты тройчы.

– Я вось думаю, добра, што я небагаты чалавек, маім дзецям і ўнукам няма чаго дзяліць паміж сабой. Таму яны ўсе сябруюць, нягледзячы на тое, што жывуць і ў Беларусі, і ў Расіі, і ў Ізраілі.

Сёння Барыса Доніна можна ўбачыць не толькі ў тэатры і спартзале, але і на стадыёне. Барыс Донін і заўзятар, і футбольны каментатар са стажам.

– Футбол цяпер у Маладзечне не той. Я ж памятаю гады, калі наша каманда збірала поўны стадыён! Было і такое, што заўзятараў суткі не маглі разагнаць. Ігралі супраць Пінска. Суддзя нешта не так залічыў, і маладзечанцы прайгралі з лікам 0:1. Што рабілася на стадыёне! Суддзю давялося пераапранаць, хаваць і толькі на наступны дзень вывесці са стадыёна. Разарвалі б!

А яшчэ шкадуе юбіляр аб тым, што цяпер усе замяніў інтэрнэт.

– Я і сам цяпер рэдка чытаю кнігі, усё больш у інтэрнэце сяджу. А ўспамінаю дзяцінства. Печка трашчыць, ты сядзіш каля яе і чытаеш тры, чатыры гадзіны.

На развітанне Барыс Донін сказаў:

– Не трэба ні пра што шкадаваць. І быць аптымістам.

А верыць мэтру ці не, справа кожнага.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ**

**могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**




Рэгіянальная газета. Rh.by ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.ВАЗ 2123

- ВАЗ-2123 Шаўрале Ніва, 2007 г.в., 1,7 бензін, серабрысты металік, добры стан, 9000 бел. рублёў, магчымы абмен на мікрааўтобус дызель альбо трактар. Мядзел. Т. (8-044) 7653788.

- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газбензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

- Рэно-Меган-Класік, 1999 г.в., дызель 1,9 дті, 3000 руб. Торг. Патрабуецца рамонт кузава. Т. (8-029) 8617699.*

- Форд-Кур'ер пікап, на ходу, можна на запчасткі. Маладзечна. Т. (8-044) 5662240.

- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*

- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГ! Т. (8-029) 6170681.***

- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

- **Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі.** Т. (8-044) 4777710, (8-029) 7685852.*

- Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*

- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*

- Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*

- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

- Іншамарку для сябе, на ходу, можна аварыйную ці з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*

- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830

- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**

*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 5 паверх, без рамонту. Т. (8-029) 1652325.*

- 2-пакаёвая кватэра ў 3-кватэрным блакіраваным доме ў Маладзечна без пасярэднікаў. Т. МТС (8-029) 5766527.*

- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6670921.

- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*

- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 5527421.*

- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, д.25. Т. (8-029) 3840109.*

- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

- Гараж у Маладзечне ў ГК №32, крайні, падвал, святло. Т. (8-044) 4993689.

- Дача на беразе возера Свір. Т. (8-029) 8594768.*

- Дом жылы ў вёсцы Порса. Т. (8-033) 3011041.

- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.

### ЗДАМ

- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

- У арэнду плошчы ад 12 до 100 кв.м. Т. (8-029) 7662646.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баян. Фота. Відэа. ІП Куліковіч Т.І. УНП 691292974. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*

- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

- Камп'ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*

- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

- Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

- **ВАГОНКА** (сасна, асіна, вольха), **ДОШКІ ДЛЯ ПАДЛОГІ**, шчыт мэблевы, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ**, плінтус, брусок і інш. ў Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. www.izlesa.by ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блокхаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

Детско-юношеская спортивная школа №2

На базе КСК "Полочаны" проводит 14 января праздник **"ЗИМНИЕ ЗАБАВЫ"**

В программе: игры, конкурсы, лыжные гонки, новогодняя лотерея, чаепитие, увлекательная экскурсия (2 руб.), катание на лошадях, санях (2,50 руб.)

Работает **ПРОКАТ ЛЫЖ**
Начало в **11:00.**
Входной билет 2 руб.

УНП 690358917

(8029) **135-39-30,** (8029) **592-03-04**

- Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*

- **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГБ-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбасаджалка да міні-трактара МТЗ-082, 132-Н. Валожын. Т. (8-044) 7192064.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
**Рассрочка без %** 8-029-570-22-12, 8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**

- Кабан жывой вагой альбо мясам. Т. Вэлком (8-044) 5165491.*

- Кабан на мяса, сала салёнае. Маладзечна. Т. (8-044) 5662240.

- Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

- Парасяты в'етнамскай пароды. Маладзечна. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635.

- Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**АККУМУЛЯТОРЫ**

БАТРИКС — для автомобилей, источников питания, сигнализаций

**ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ**

проверка аккумуляторов с выдачей справки и протокола испытаний

**ШИРОКИЙ ВЫБОР МАСЕЛ** моторных, гидравлических, индустриальных, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости

**ЗАПЧАСТИ К ИНОМАРКАМ**

ООО "Батрикс" УНП 691893243 Телефон в Молодечно (80176) **58-12-48**, (8029) **63-63-166** (Велком)

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Данік Савеня: мару стаць знакамітым і каб Кацця на мяне паглядзела

МАЛАДЗЕЧНА

**Выдаць сольны альбом, быць знакамітым і спадабацца дзяўчынцы Каці. А дакладней, выдаць альбом і быць знакамітым, каб спадабацца дзяўчынцы Каці.**

Пра гэтыя і іншыя свае мары расказаў нам пераможца конкурсу "Рэгіянальнай газеты" "Асоба года" ў намінацыі "Натхненне года" па выбары рэдакцыі, таленавіты невідушчы хлопчык **Данііл Савеня**. Галоўны рэдактар газеты **Аляксандр Манцэвіч** уручыў хлопчыку сертыфікат і падарункі.

Даніку 12 год. Ён вучыцца ў 6 класе Маладзечанскай школы інтэрната №2 для дзяцей з праблемамі зроку. Нарадзіўся хлопчык у Слуцку. Тут і цяпер жыве яго сям'я: мама, тата і васьмігадовая сястрычка **Аляксандра**.

– Пра галасаванне на сайце мы даведаліся, калі яно ішло ўжо пяць дзён, – расказала **Анжэла Савеня**, мама Даніка. – Але калі з даведалася, то пачала актыўную дзейнасць: размяшчала інфармацыю ў суполках у інтэрнэце, расказвала ўсім сваім сябрам. За Даніка галасавала нават жанчына-дэпутат са Слуцка.

### У Маладзечне пра Даніка ведаюць больш, чым у родным горадзе

Анжэла прызналася, што хоць і не жыве ў нашым рэгіёне, чытае газету і інфармацыю на сайце. У "Рэгіянальнай газеце", заўважыла мама, можна знайсці навіны пра Даніка. Ды і ў Маладзечне яго ўжо больш ведаць, чым у родным Слуцку.

Гэта і не дзіўна. Бо ў Мададзечне хлопчык з першага класа. Калі прыехалі першы раз на лінейку, успамінае мама з усмешкай, Данік адразу сабе "жонку" знайшоў сярод дзяўчынак-вучаніц. Хлопчык ён актыўны, любіць зносіны.

– У першым класе без бацькоў сумаваў, – далучаецца да размовы Данік. – Але цяпер у школе ў Маладзечне куды весялей, чым дома. У Слуцку – сям'я і ноўтбук, а ў школе – мерапрыемствы, сябры, музыка.

Упершыню на сур'ёзнай сцэне Данік стаў спяваць з пяцігадовага ўзросту. Талент, хутчэй за ўсё, з сям'і. Добры голас мае тата Даніка, а мамін брат нават меў свой музычны гурт. Сястра Даніка **Саша** таксама спявае, іграе на віяланчэлі.

– Я раіў маме аддаць Сашу на фартэпіяна. Лічу, што гэта больш патрэбны інструмент, – дзеліцца Данік. – Але Саша сама абрала віяланчэль.

На вялікай сцэне дуэтам з сястрой Данік ніколі не спяваў, а вось у машыне часта, расказала мама.

### Што натхняе хлопчыка, які стаў натхненнем года

Хлопчык займаецца музыкай і ў інтэрнаце. Практычна ні адно мерапрыемства не абыходзіцца без яго песень. Ад верасня спявае ў студыі кампазітара **Алены Атрашкевіч** у маладзечанскім Палацы культуры. Ужо пяты год ходзіць у музычную школу па класе фартэпіяна, умее іграць на сінтэзатары.

Па словах Даніка, яго натхняе падтрымка блізкіх і гледачоў у час выступлення. Усведамленне таго, што на яго глядзіць дырэктар школы і музычны кіраўнік. Тады, кажа хлопчык, хочацца спяваць для сябе і для радасці людзей. Ды і музыка сама па сабе натхняе.

Цяпер Данік актыўна перапісваецца з сябрамі "Укантакце", з'яўляецца адміністратарам некаторых інтэрнэт-парталаў.

Хлопчыку падабаецца беларуская мова, але не на ўроках, а ў жывым маўленні. Беларускую мову трэба ведаць, упэўнены Данік.

> – У маім характары ёсць не вельмі добрая рыса – лянота, – самакрытычна прызнаўся хлопчык.

Ён не любіць чытаць, але вельмі любіць слухаць творы беларускіх аўтараў. Некалькі ўрокаў у школе шасцікласнікі працавалі з творам "Лебядзіны скіт" **Уладзіміра Караткевіча**. За гэты час, кажа Данік, твор вельмі спадабаўся яму. З апошніх праслуханых аўдыёкніг запомніўся "Знак бяды" **Васіля Быкава**. Слухае ён і радыёспектаклі. Прызнаўся, што вельмі раздражняе, калі сур'ёзная радыёпраграма раптам перапыняецца песняй, ды яшчэ не самай лепшай.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

За неверагодную мужнасць і бліскучы талент рэдактар "Рэгіянальнай газеты" Аляксандр Манцэвіч уручае Даніку Савеню сертыфікат і падарункі.

### Не люблю спяваць дзіцячыя песні, бо не лічу сябе дзіцем

А якія ж песні падабаюцца юнаму спеваку? І ці даводзілася спяваць тое, што зусім не па душы?

Даніку блізкая творчасць латвійскага спевака **Інтарса Бусуліса**. Хлопчык вельмі ганарыцца, што змог праспяваць з ім у дуэце. Яшчэ адзін кумір – **Макс Корж**. З ім разам Данік таксама марыць спяваць. З музычных накірункаў хлопчыка натхняюць і захапляюць рэп і хіп-хоп.

– Некаторыя лічаць, што хіп-хоп і эстрада – несумяшчальныя. А я ўпэўнены, што іх можна сумясціць і некалі зраблю гэта, – перакананы Данік.

Пэўны час Даніку падабаўся спявак **Вітас**. Але калі хлопчык пачуў, як Вітас спявае без фанаграмы, то вельмі расчараваўся ў ім.

Песні, якія не падабаюцца, часам спяваць даводзілася, прызнаўся Данік. Але спяваў таму, што меў добрыя адносіны з музычным кіраўніком у інтэрнаце і не хацеў іх псаваць.

Цяпер хлопчык з неахвотай спявае дзіцячыя песні. Кажа, некаторыя не разумеюць, чаму ён не спявае песні для дзяцей, калі сам дзіця. Данік пярэчыць, што ён сам сябе дзіцем не адчувае і не лічыць.

> - І ўсё ж, здараецца, што мне хочацца ў першы клас. Там было так бестурботна. Калі мы дрэнна сябе паводзім, настаўнікі палохаюць нас, што аддадуць у першы клас. А мне наадварот хочацца туды.

На пытанне, ці маюць мама і Данік нейкія праблемы з-за таго, што ён невідушчы, нашы госці аднагалосна адказалі "не".

На мерапрыемствы, па горадзе, у музычную школу, у Палац культуры Данік заўсёды ходзіць з педагогам. Магчыма, думае мама, былі б праблемы, каб ён хадзіў усюды самастойна.

Але ў Даніка свая думка на гэты конт. Хлопчык прызнаўся, што яго раздражнее, калі яго водзяць за руку:

– Людзі думаюць часамусці, што я не магу іх сам, але я вельмі добра арыентуюся навобмацак не толькі ў школе, а нават у горадзе і на стадыёне.

### "Мама, што танней: вадзіць мяне па чужых студыях ці мець сваю?"

Такое пытанне Анжэла нядаўна пачула ад сына.

Адна з мар Даніка – мець уласную студыю. І пэўныя работы ў гэтым накірунку ўжо вядуцца. Па кватэры, па словах мамы, кіламетры праводаў і завешаныя коўдрамі куты, дзе запісваецца песня.

Данік хоча навучыцца рабіць фанаграмы да песень, пісаць музыку і словы. Марыць пра выданне ўласнага сольнага альбома. І ўсё ж пры тым, што ўсё яго жыццё звязанае з музыкай, хлопчык не збіраецца рабіць яе асноўнай працай.

З урокаў у школе Данік любіць фізкультуру і інфарматыку. І калі матэматыку ён крыху падцягне, можна будзе звязаць жыццё з праграмаваннем.

На думку Даніка, невідушчыя людзі могуць праявіць сябе ў многіх галінах. Напрыклад, у камп'ютарных справах, у ручной працы. Сяброўка Даніка **Тацццяна**, якая летась скончыла школу-інтэрнат, вучыцца на масажыста. Ёсць праца, дзе не трэба вочы, кажа Данік. Напрыклад, адказы на тэлефонныя званкі і зноў жа музыка.

### Мары пра знакамітасць і дзяўчынку Кацю

– Я мару стаць вядомым чалавекам. А яшчэ пра тое, каб адна дзяўчынка на мяне паглядзела. Яна можа бачыць мяне. Звычайна я смелы і рашучы. Магу пастаяць за сябе, хоць і не бачу працаўніка. Да апошняга стаю за праўду. Нават бацькам і настаўнікам заўсёды кажу, калі я не згодны з імі. Але калі са мной побач Кацця, я не такі смелы. Я быў вельмі шчаслівы, калі яна адказала мне "Укантакце".

Неяк быў і такі выпадак: мы хадзілі на мерапрыемства ў бібліятэку "Верасок", і Кацця сказала мне "прывітанне!", а я нават не ведаў, што адказаць.

У сацыяльных сетках я сябрую з псіхолагам. Ён кажа, што мая выйгрышная карта – тое, што я спяваю. Раіць паспрабаваць мне напісаць такую песню, каб, пачуўшы яе, гэта дзяўчынка сама захацела быць побач са мной. І такая песня абавязкова з'явіцца, мы з сябрам **Віцькам** ужо пачалі пісаць яе.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

## Змяніліся тарыфы на электра- і цеплаэнергію для насельніцтва



Новыя тарыфы дзейнічаюць ад 1 студзеня. Змены прапісаныя ў новай пастанове Савета Міністраў ад 16 снежня 2016 года.

Тарыф на цеплавую энергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння – 15,6098 рубля за Гкал.

Тарыф на электрычную энергію, які цалкам пакрывае эканамічна абгрунтаваныя затраты:

аднаставачны тарыф – 0,19 рубля за 1 кВт/г;

дыферэнцыяваны па часавых перыядах тарыф:

– у часы мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) – 0,133 рубля за 1 кВт/г;

– у часы максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) – 0,38 рубля за 1 кВт/г.

**Аддзел інфармацыі.**

**Субсідзіраваныя дзяржавай тарыфы на электраэнергію для насельніцтва:**

| | Тарыф, рублёў за 1 кВт/г |
|---|---|
| **1. Электрычная энергія ў жылых дамах (кватэрах), абсталяваных электрычнымі плітамі:** | |
| 1.1 Аднаставачны тарыф | 0,1009 |
| 1.2. дыферэнцыяваны тарыф па часавых перыядах: | |
| у часы мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) | 0,0706 |
| у часы максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) | 0,2019 |
| **2. Электрычная энергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт:** | |
| у часы мінімальных нагрузак (ад 23:00 да 6:00) | 0,0831 |
| астатні час сутак | 0,1544 |
| **3. Электрычная энергія, за выключэннем указанай у пунктах 1 і 2:** | |
| 3.1. Аднаставачны тарыф | 0,1188 |
| 3.2. Дыферэнцыяваны тарыф па часавых перыядах: | |
| у часы мінімальных нагрузак (ад 22:00 да 17:00) | 0,0831 |
| у часы максімальных нагрузак (ад 17:00 да 22:00) | 0,2376 |

## Хлебазаводы рэгіёна падзяліліся вынікамі за год




Колькасць хлебабулачных вырабаў па раёнах у тонах.




АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

Колькі хлеба спяклі за 2016 год? З такім пытаннем мы звярнуліся на некаторыя хлебазаводы ў нашым рэгіёне.

У Вілейцы кожны дзень мінулага года выпякалі прыкладна па 16,5 – 17 тон хлебабулачных вырабаў. За год атрымалася каля шасці тысяч тон.

У Смаргоні напяклі 2 тысячы 251 тону хлебабулачных вырабаў. З іх – 1 тысяча 249 тон хлеба, астатняе – булкі.

Сушак зрабілі 206 тон, піражных і тортаў – 64 тоны.

Яшчэ на хлебазаводзе ў Смаргоні вырабляюць солад і соладавыя сумесі. Гэтыя рэчывы патрэбныя для выпечкі хлеба. Іх выкарыстоўваюць не толькі ў сябе, але і прадаюць амаль на ўсе хлебазаводы Беларусі. Солаunion зрабілі 397 тон, сумесяў – 82 тоны.

Крыху менш напяклі ў Валожыне. У месяц у сярэднім атрымлівалася 140 тон. За год – 1 тысяча 680. З іх булак – 480 тон.

Вынік хлебазавода ў Астраўцы – 1 тысяча 122,8 тоны хлебабулачных і 52 тоны кандытарскіх вырабаў. Тут робяць сочнікі, рулеты, пірагі і пячэнне. У сярэднім у месяц адсюль выходзіла 98 тон прадукцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## “Праект вілейскага таварыства “Буддэталі” прызналі важнейшым

ВІЛЕЙКА

У Савеце Міністраў прынялі пастанову аб прызнанні інвестыцыйнага праекта таварыства “Буддэталі” важнейшым.

Адпаведны дакумент апублікавалі на нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

У дакуменце паведамляюць, што праект “Стварэнне новай вытворчасці садовага домабудаўніцтва з мадэрнізацыяй існуючых магутнасцяў”, які рэалізуюць у “Буддэталях”, прызнаны важнейшым інвестыцыйным праектам.

**Паводле Нацыянальнага прававога сайта.**

## “Розум-шоу” адзначае дзень нараджэння

МАЛАДЗЕЧНА

15 студзеня ў бібліятэцы “Верасок” інтэлектуальная гульня “Розум-шоу” адзначыць свой першы дзень нараджэння.

За мінулы год аматары інтэлектуальных гульняў згулялі дзевяць разоў.

І гэта гульня, якая пачнецца ў нядзелю ў 15:00, будзе дзясятай, юбілейнай.

Удзел па-ранейшаму бясплатны. Каманды складаюцца з двух-шасці чалавек.

Папярэдняя рэгістрацыя па тэлефонах: 8 (0176) 76-06-56, 8 (033) 669-12-18. Таксама зарэгістравацца можна ў суполцы гульні “Укантакце”.

**Аддзел інфармацыі.**

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах. Вёска Дварэц

*Працяг. Пачатак у №№1, 2.*

**Гісторыі майго краю напісаныя з расповедаў сведак тых далёкіх і трагічных часоў.**

### Як дварчане сустрэлі вайну з гітлерам

24 чэрвеня 1941 года, упершыню пасля прыходу бальшавікоў, з'явіліся ў вёсцы чырвонаармейцы. Тыя ж самыя, без пагонаў і ў анучах замест ботаў. Але выгляд у іх быў ужо зусім не такі ганарлівы, як у 39-м. Збянтэжанасць, разгубленасць панавалі сярод ваенных. Яны не маглі вырашыць, дзе і ў які бок ісці, што рабіць? З польскамоўным насельніцтвам размаўляць ужо не цураліся.

Ад чырвонаармейцаў дварчане і даведаліся пра нападзенне немцаў на СССР. Але каб удакладніць, што ўсім цяпер рабіць, не было ў каго. Самы галоўным валасным начальнікам застаўся пaштар Рымша. Ён і распавёў усім, што бальшавіцкая ўлада драпанула, а яго часова пакінулі галоўным, надаўшы ўсе паўнамоцтвы савецкай улады.

Рымша пры кожным выпадку не ўпускаў моманту, каб не паддзець савецкую ўладу, партапаратчыкаў, НКВДэшнікаў, якія далі дзёру на Усход, пакінуўшы людзей і рэштку свайго войска на волю лёсу. Дзесьці ўдалечыні грукатала, у небе раз-пораз праляталі, а то і кружыліся самалёты. Нічога падобнага раней жыхары не бачылі, і таму з зацікаўленасцю назіралі за лятаючымі жалезнымі птушкамі.

### Шахраёў хутар

Групоўка, чалавек трыццаць-сорак, галодных і змучаных савецкіх вайскоўцаў на ноч размясцілася за Дварцом, на Шахраёвым хутары. Людзі сабралі ім такія-сякія пажыткі на вячэру. На наступны дзень, дзесьці бліжэй да поўдня, з боку Хаценчыцаў у Дварэц заехалі некалькі машын і з дзесятак матацыклаў з немцамі. Чырвонаармейцам нямецкая калона была не па зубах, і яны пачалі хуценька адыходзіць з хутара ў лес. Немцы, заўважыўшы вайскоўцаў, пачалі пераслед. Апошнія пачалі адстрэльвацца. Але тыя ў адказ адкрылі такі моцны аўтаматны і кулямётны агонь, які ў адзін момант прымусіў савецкае войска залегчы.

Немцы, расцягнуўшыся па полі шчыльным ланцугом і "паліваючы" чырвонаармейцаў свінцовым "дажджом", не давалі ім адарваць ад зямлі нават галавы. Праз колькі часу страляніна скончылася, бо з адной трохлінейкай на дваіх савецкія вайскоўцы не маглі супрацьстаяць немцам, узброеным да зубоў зброяй. Палонных чырвонаармейцаў яны адвялі ў Хаценчыцы і зачынілі ў недабудаваным касцёле. Праз нейкі час палонных савецкіх камандзіраў з Хаценчыцаў адправілі ў часовы лагер у Раёўку, а радавым чырвонаармейцам дазволілі жыць у вёсках у якасці наёмных работнікаў.

### Новая ўлада і новы парадак

З гэтага дня фашысты ўступілі ў свае правы, абвясціўшы па ўсёй акрузе нямецкую ўладу і свой парадак, якому павінны былі падпарадкоўвацца ўсе без выключэння. Парушальнікаў чакаў расстрэл і шыбеніца, у лепшым выпадку канцэнтрацыйны лагер.

Пасля такога павароту мірнага жыцця дварчанам думалася, што гэта жудасны сон. Але ўсё было насамрэч, і таму, каб выратаваць свае жыцці, ім трэба было тэрмінова перастройвацца і падладжвацца да чарговай новай улады. Немцы адразу загадалі вяскоўцам абраць свайго солтыса, які будзе кантраляваць грамадскі парадак, падпарадкоўванне нямецкім законам і выкананне загадаў валаснай адміністрацыі і паліцыі.

Праз некалькі дзён хваляванні ў Дварцы сціхаліся, бо першапачаткова немцы насельніцтва не крыўдзілі. Не чынілі ніякіх перашкод у вядзенні асабістых гаспадарак. Наадварот, калі каму-небудзь патрэбная была людская дапамога, то па просьбе сялян у такой дапамозе не адмаўлялі і накіроўвалі ім у якасці памагатых савецкіх ваеннапалонных, якія ўтрымліваліся ў хаценчыцкім касцёле.

Прайшло колькі месяцаў, а дварчане так і не абралі свайго солтыса, бо ніхто не пагаджаўся на тую пасаду. Ды і немцы не бачылі ў ім патрэбу у гэтай вёсцы, бо вяскоўцы самаарганізаваліся і спраўна здавалі новай уладзе прызначаны ім аброк.




Вёска Дварэц, што ў Хаценчыцкім сельсавеце Вілейскага раёна.

Бліжэй да восені ў Хаценчыцах немцы распачалі ўмацоўваць свой ваенны гарнізон. У ста кроках на ўсход ад гміны, на месцы недабудаванага касцёла, немцы пабудавалі моцны дзот, укамплектаваўшы яго некалькімі кулямётамі. Пры выездзе з мястэчка на ўсходнім накірунку, на вышцы, быў таксама усталяваны кулямёт, які меў вельмі добры кругавы сектар абстрэлу. Зручную абарончую пазіцыю займаў таксама кулямёт, усталяваны на званіцы хаценчыцкай царквы. У 20 кроках ад царквы быў пабудаваны яшчэ адзін кулямётны дзот. Паміж гэтым дзотам і царквой быў пракладзены падземны ход. Ва ўсім Хаценчыцкім гарнізоне было ўсталявана пяць агнявых кулямётных пунктаў. На ўзбраенні гарнізона мінамётаў, а тым больш гармат (пра якія згадваюць некаторыя крыніцы), не было. Нейкі час былі дзве бронемашыны, але іх перакінулі ў Ілью. І гэта пацвярджаюць непасрэдныя сведкі і ўдзельнікі разгрому хаценчыцкага гарнізона.

Для ўзвядзення ўмацаванняў гарнізона былі задзейнічаны, акрамя ваеннапалонных, мужыкі з навакольных вёсак. З самага пачатку хаценчыцкі гарнізон налічваў некалькі немцаў і са два дзесяткі літоўскіх паліцэйскіх. Паступова асабовы склад гарнізона папаўняўся за кошт мясцовага насельніцтва, з суседніх вёсак – Зачарной, Загаранаў, Пляшчанаў, Заельнікаў, Старынак і іншых. У яго ўліваліся нявінна пакрыўджаныя саветамі яшчэ да вайны працавітыя сяляне ды звычайныя лайдакі і п'яніцы. З Дварца ў паліцыю ніхто не пайшоў. Не ішлі і ў партызаны, прытрымліваючыся "швейцарскага" нейтралітэту. Аброкам адкупіліся ад усіх: і ад немцаў, і ад рускіх, і ад невядомых бандытаў. Апошнія сваімі начнымі нашэсцямі на вёскі і крывавымі расправамі над цэлымі сем'ямі наводзілі жах на мірных жыхароў. Бандыцкія расправы працягваліся нават і пасля таго, як у рэгіёне ўжо дзейнічалі цэлыя партызанскія брыгады.

### Расповеды бабы Зонькі

Баба Зонька шмат распавяла пра жахлівыя выпадкі ваеннага бандытызму, пра якія ведала не па чутках, а асабіста сустракалася з забойцамі-гвалтаўнікамі і на свае вочы бачыла іх злачынствы.

Прайшло 70 год, а прозвішча Барвенка не сыходзіць у яе з памяці. Бо яно, як і Садко, у той час наводзіла жахі на мірнае насельніцтва. Хто ён такі быў, Барвенка?! Партызан, паліцай, звычайны бандыт-гвалтаўнік, ніхто не ведае. Але тое, што ён вольна і без боязні разгульваў па ўсёй акрузе – гэта факт. Амаль два гады мірныя жыхары жылі пад большым страхам ад таго Барвенкі, чым ад нямцаў. Гэты садыст беспадстаўна забіў двух ксяндзоў з Лядзвеняў. Прычапіўся невядома за што да настаўніка польскай мовы Грыбёнкі з Казлеўшчыны і расстраляў яго за Дварцом на ўзлеску як на Паньшы.

А праз тыдзень Барвенка прыйшоў, каб разабрацца з яго жонкай Алай. Схлусіўшы, што ён прыйшоў ад яе мужа, які быццам бы просіць Алу прыйсці да яго ў лес. Тая паверыла злачынцу і пагадзілася пайсці з ім да мужа, не ведаючы пра тое, што яго ўжо няма ў жывых. Брат Алы Віталь усяляк адгаворваў, але тая не паслухала.

Пакінуўшы часова маленькага сына на Віталя, Ала рушыла з бандытам у бок панышоўскага лесу. Падманным шляхам Барвенка, давёўшы Алу да лесу, прымусіў раздзецца. І нават не падазраючы таго, што ў 50 кроках, з-за стажка з сенам, за яго дзеяннямі пільна назіраюць дзве пары дзявочых вачэй. Згвалтаваўшы Алу, садыст з карабіна амаль што ва ўпор два разы стрэліў у жанчыну. Але тая ўсё адно заставалася жывой. Стрэліць яшчэ раз у злачынцы штосьці не атрымоўвалася. Тады садыст некалькі разоў стукнуў прыкладам па галаве, і тая змоўкла.

Дзяўчаты-сведкі, зразумеўшы небяспеку для сябе і скарыстаўшы момант, пакуль бандыт распраўляўся са сваёй ахвярай, даліся на ўцёкі ў бок Дварца. Барвенка іх усё ж такі заўважыў, як тыя былі ўжо каля вёскі і падаліся ў хату Кратовіча.

Так, гэта Зонька са сваёй старэйшай сястрой зграбалі сена і апынуліся выпадковымі сведкамі таго жудаснага злачынства. Не паспелі распавесці сваім бацькам пра ўбачанае, як на парозе з'явіўся Барвенка з карабінам у руках. Уся сям'я падрыхтавалася ўжо да самага горшага. Але, відаць, ім лёсам было наканавана жыць, бо выратавала іх ад немінучай смерці няспраўнасць бандыцкай зброі. Той загадаў усім маўчаць пра ўбачанае, а не то іх чакае тое самае, што і Алу Грыбёнку. І галаве сям'і загадаў, каб той узяў рыдлёўку ды схадзіў на ўзлесак і закапаў забітую, а дзяўчаты, каб наладзілі яму добры абед, бо пасля забойства ў яго заўжды падымаецца вельмі добры апетыт. Дзяўчаты вымушаныя былі бегаць па вёсцы і прасіць хоць такіх-сякіх харчоў, каб накарміць гэтага нелюдзя.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

13 СТУДЗЕНЯ

**85 гадоў** з дня нараджэння Віктара Лебедзева (1932 – 2001), акцёра, народнага артыста Беларусі.

14 СТУДЗЕНЯ



**75 гадоў** з дня нараджэння Веры Вярбы (сапр. Гертруда Пятроўна Сакалова, 1942-2012), беларускай паэтэсы, перакладчыцы. Нарадзілася ў сям'і служачых. Бацька загінуў у 1941 пад Смаленскам. Маці працавала інжынерам у Мінску. У 1958-м скончыла сярэднюю школу і паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Працавала пазаштатным карэспандэнтам часопіса "Маладосць", старшым інспектарам аддзела прапаганды літаратуры Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржкамітэта СМ БССР па друку. Ад 1972 – літсупрацоўнік, пасля загадчыца аддзела пісем і інфармацыі рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", ад 1977-га – пазаштатны карэспандэнт часопіса "Работніца і сялянка", ад 1980 – у часопісе "Беларусь". Жыла ў Мінску. У яе ёсць сын. Яе верш "Ручнікі", пакладзены на музыку Пятрэнкам, стаў папулярнай песняй (апроч гэтага, песні на вершы паэтэсы напісалі іншыя кампазітары. Творы перакладаліся на рускую і іншыя мовы.

16 СТУДЗЕНЯ

**70 гадоў** з дня нараджэння (1947) Леаніда Захлеўнага, беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага артыста Беларусі.

17 СТУДЗЕНЯ

**285 гадоў** з дня нараджэння Станіслава-Аўгуста Панятоўскага (1732 – 1798), апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага.

**100 гадоў** з дня нараджэння Антона Бархаткова (1917–2001), беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

18 СТУДЗЕНЯ

**140 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Гардзіна (Благанравава) (1877 – 1965), рускага акцёра і рэжысёра, аднаго з пачынальнікаў беларускага кіно, народнага артыста СССР.

**570 гадоў** назад (1447) з'явіліся першыя пісьмовыя звесткі пра Радашкавічы.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Месяцавы пасяўны каляндар садавода і агародніка на 2017 год па культурах



**Месяцавы каляндар згрупаваны па работах у садзе і агародзе згодна з канкрэтнымі агракультурамі. Улічаныя квадры Месяца, праходжанне Месяцам знакаў задыяка.**

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

| СТУДЗЕНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 5, 6, 13, 14, 27, 28, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй (падваконне, цяпліца) | 17, 18, 19, 25, 26 |
| Цыбуля на пяро (падваконне, цяпліца) | 11, 12, 18, 19, 25, 26 |
| Радыска (падваконне, цяпліца) | 17-19, 21, 22, 25, 26 |

| ЛЮТЫ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы любой культуры | 1, 2, 9-11, 24, 25, 26 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Капуста ўсіх відаў | 7, 8, 14, 15, 26, 27, 28 |
| Бульба, тапінамбур, батат | 21, 22, 23 |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 14-16, 17, 21, 22, 23 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны (падваконне, цяпліца) | 5, 6, 7, 8, 17, 18, 20, 27, 28 |
| Памідоры, баклажаны (падваконне, цяпліца) | 7, 8, 17, 18, 26, 27, 28 |
| Перац (падваконне, цяпліца) | 7, 8, 17, 18, 26, 27, 28 |
| Цыбуля на пяро (падваконне, цяпліца) | 7, 8, 14, 15, 21, 22, 23 |
| Цыбуля на рэпку (падваконне, цяпліца) | 14, 15, 17, 18, 19, 21, 22, 23, 28 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры (падваконне, цяпліца) | 7, 8, 27, 28 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 7, 8, 12-15, 19, 20 |
| Кветкі з насення | 7, 8, 12, 13, 17, 18, 19 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 3, 4, 12-15, 21, 22, 23 |

| САКАВІК | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 8, 9, 10, 23, 24, 25, 28, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Суніцы (рэмантантныя) | 2, 3, 6, 7, 8, 18, 19, 20 |
| Капуста на расаду | 2, 3, 6-8, 26, 27, 30, 31 |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй (падваконне, цяпліца) | 2, 3, 13, 14, 15, 16, 17, 21, 22 |
| Агуркі на расаду, кабачкі, гарбузы, патысоны (падваконне, цяпліца) | 4, 5, 6, 7, 8, 16, 17, 25, 26, 27 |
| Памідоры, баклажаны на расаду | 6-8, 25, 26, 27, 30, 31 |
| Перац | 6-8, 25, 26, 27, 30, 31 |
| Цыбуля на пяро (падваконне, цяпліца) | 1, 2, 3, 18, 19, 25, 26 |
| Цыбуля на рэпку (падваконне, цяпліца) | 7, 8, 16, 17, 21, 22 |
| Радыска (падваконне, цяпліца) | 2, 3, 13-15, 21, 22, 25, 26 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры (падваконне, цяпліца) | 1, 2, 3, 18, 19, 20, 25, 26, 27 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 2, 3, 11, 12, 13, 14, 21, 22, 25, 26 |

| КРАСАВІК | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 5, 6, 19, 20, 21, 24, 25 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 1-4, 14, 15, 16, 27, 28 |
| Капуста на расаду і пад плёнку | 3, 4, 12, 13, 17, 18, 19, 27, 30 |
| Бульба, тапінамбур, батат | 12, 13, 14, 17, 18, 19 |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 12, 13, 14, 17, 18, 19, 27 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 3, 4, 12, 13, 14, 22, 23, 30 |
| Памідоры, баклажаны, перац на расаду | 3, 4, 12-14, 22, 23, 30 |
| Цыбуля | 3, 4, 12, 13, 14, 18, 19, 22, 23 |
| Часнок | 12-14, 17, 18, 22, 23 |
| Радыска, буракі, рэпа, рэдзька, турнэпс | 11-14, 17, 18, 22, 23 |
| Сланечнік | 3, 4, 5, 6, 30 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 3, 4, 10-16, 22, 23, 30 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 10, 11, 15, 16, 26, 27 |
| Бахчавыя | 1, 2, 3, 4, 28, 29, 30 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 14, 15, 16, 28 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 3, 4, 7-11, 15, 16, 30 |
| Кветкі з насення | 3, 4, 7, 8, 9, 14, 15 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 5, 6, 9,-11, 17, 18, 19 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 3, 4, 7, 8, 9, 15, 16, 17, 18, 26, 27 |

| МАЙ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 3, 4, 17, 18, 21, 22, 23, 29, 30, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 1, 7, 8, 26, 28, 29 |
| Капуста ўсіх відаў | 1, 7, 8, 9, 27, 28 |
| Бульба, тапінамбур, батат | 9, 10, 14, 15, 16, 19, 20 |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 14, 15, 16 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 1, 7-10, 12, 13, 26-29 |
| Памідоры, баклажаны | 1, 9, 10, 19, 20, 27, 28 |
| Перац | 1, 9, 10, 27, 28 |
| Цыбуля на пяро | 7, 8, 19, 20, 21, 22, 23 |
| Цыбуля на рэпку | 14, 15, 16, 19, 20 |
| Часнок | 9, 10, 15, 16, 19, 20, 21 |
| Радыска | 9, 10, 14, 15, 16 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, турнэпс | 14-16, 19, 20, 21, 24 |
| Сланечнік | 1, 2, 3, 28, 29 |
| Кукуруза | 1, 28, 29 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 1, 7, 8, 9, 10, 12, 13, 19, 20, 28, 29 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 7, 8, 12, 13 |
| Бахчавыя | 7, 8, 12, 13, 28, 29 |
| Расліны, што ўюцца | 5-12, 26, 27 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 1, 5-8, 12-16, 28, 29 |
| Кветкі з насення | 5-8, 11, 12, 13, 19- 21 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 3, 4, 5, 6, 7, 8 |
| Пасадка, перасадка дрэў (да распускання пупышак) і кустоў | 12, 13, 14, 15 |

| ЧЭРВЕНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 13-15, 18, 19, 26, 27 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Бабовыя | 3, 4, 21, 22, 30 |
| Капуста ўсіх відаў | 3, 4, 17, 25, 30 |
| Бульба, тапінамбур, батат | 10, 11, 12, 20, 21 |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 10, 11, 12, 20, 21 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 3, 4, 5, 6, 7, 25 |
| Памідоры, баклажаны | 6, 7, 25 |
| Перац | 6, 7 |
| Цыбуля на пяро | 6, 7, 15, 16, 17, 25 |
| Радыска | 10-12, 16, 17, 20, 21 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, турнэпс | 10-12, 16, 17, 20, 21 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 3-7, 15, 16, 17, 25, 30 |
| Бахчавыя | 3, 4, 22, 23, 24, 25, 30 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 28, 29, 30 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 1, 2, 3, 4, 8, 9, 10, 11, 12, 24, 25, 28, 29, 30 |
| Кветкі з насення | 1, 2, 3, 4, 7, 8, 9, 16, 17, 28, 29 |

| ЛІПЕНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 10,11, 12, 15, 16, 23, 24, 25 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 8, 28, 29, 30 |
| Агуркі, кабачкі, гарбузы, патысоны | 3, 4, 30, 31 |
| Цыбуля на пяро | 8, 28, 29 |
| Радыска | 13, 14, 17, 18 |
| Буракі, рэпа, рэдзька, турнэпс | 8, 13, 14 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 1, 2, 3, 4, 5, 13, 14, 28, 29, 30, 31 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 4, 6, 7, 25, 26, 27 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 1, 2, 5, 6, 7, 8, 17, 18, 21, 22, 26, 27, 28 |
| Кветкі з насення | 1, 3, 4, 5, 6, 13, 14, 26, 27, 30, 31 |

| ЖНІВЕНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы любой культуры | 6-8, 11-13, 20, 21 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 4, 5, 6 |
| Радыска | 11, 12, 13, 14 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 4, 5, 6, 11, 12, 13, 14, 18, 19, 26, 27, 28, 31 |
| Расліны, што ўюцца | 1, 2, 3, 22, 23, 24, 25 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 2, 3, 4, 5, 18, 19, 22, 23, 24, 25, 29, 30, 31 |
| Кветкі з насення | 1, 2, 3, 9, 10, 22, 23 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 22, 23, 24, 25, 31 |

| ВЕРАСЕНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы любой культуры | 3, 4, 7, 8, 9, 16, 17, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 10, 11 |
| Часнок | 10, 11, 28, 29 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 1, 2, 6, 7, 13-15, 28, 29 |
| Высадка чаранкоў на ўкараненне | 21, 22 |
| Кветкі, дэкаратыўныя культуры | 5, 6, 14, 15, 18, 19, 20, 21, 22, 26, 27, 28, 29 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 1, 2, 10, 11, 19, 20, 21, 22, 25, 26, 27 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 10, 11, 18, 19, 23, 24, 28, 29 |

| КАСТРЫЧНІК | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 5, 6, 13, 14, 15, 27, 28, 29 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква, пастарнак, пятрушка каранёвая, сельдэрэй | 11, 12, 18, 25, 26 |
| Цыбуля на пяро | 25, 26 |
| Часнок | 7, 8, 11, 12, 20, 21, 22_ |
| Салата і іншыя зялёныя культуры | 3, 4, 11, 12, 15, 16, 17, 30, 31 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 7, 8, 16, 17, 18, 19, 25, 26, 27 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 3, 4, 7, 8, 23, 24, 25, 26 |

| ЛІСТАПАД | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 3, 9, 10, 11, 24, 25, 26, 28, 29, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква (пад зіму) | 3, 4, 5, 16, 17 |
| Цыбуля (пад зіму) | 21, 22, 23 |
| Радыска (цяпліца) | 3, 4, 5, 16, 17 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры (цяпліца, падваконне) | 1, 2, 7-9, 14, 15, 21, 22, 23, 26, 27, 28, 29, 30 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 4, 5, 12, 13, 14, 15, 21, 22, 23 |
| Пасадка, перасадка дрэў і кустоў | 4, 5, 19, 20 |

| СНЕЖАНЬ | |
|---|---|
| ДНІ, НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ для сяўбы і пасадкі любой культуры | 7, 8, 18, 21-23, 26, 27 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| Морква (пад зіму) | 11, 12, 13, 14, 15 |
| Цыбуля на пяро (цяпліца, падваконне) | 19, 20 |
| Салата і іншыя зялёныя культуры (цяпліца, падваконне) | 1, 2, 5, 6, 11, 12, 13, 14, 15, 17, 18, 24, 25, 26, 27, 28, 29 |
| Акуліроўка дрэў | 7, 8, 10, 21, 22, 23 |

